# ШАСЦЁРА НА ФОТАЗДЫМКУ

Упершыню гэты фотаздымак быў надрукаваны ў кнізе Станіслава Шушкевіча "Вяртанне ў маладосць" (1968). Па сутнасці гэта былі першая ўспаміны пра лёс некаторых з амаль 500 рэпрэсіраваных у 1920-40-я гады беларускіх літаратараў. У 1928 г., апошнім годзе "беларусізацыі" на фотаздымку захаваны поўныя "жыцця і агню" маладыя, але ўжо вядомыя паэты, студэнты — маладнякоўцы: Змітрок Астапенка, Віктар Казлоўскі, Валеры Маракоў, Аркадзь Мардвілка, Юлі Таўбін, Станіслаў Шушкевіч.

У канцы 1960-х г., калі выйшла кніга С.Шушкевіча, лёс гэтых людзей яшчэ не прайшоў свой "поўны круг". Цяпер мы маем магчымасць сцвярджаць, што фотаздымак, які аб'ядноўвае трагічнае жыццё і смерць шасці рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў — яшчэ адно сведчанне знішчэння лепшых прадстаўнікоў беларускага народа, яго духоўнай эліты тымі сіламі, якія "як толькі даходзіла справа да дзяржаўнасці [Беларусі], душылі яе ў самым зародку агнём і мячом"* [1].

Ніжэй падаюцца біяграфіі "шасці з фотаздымка", біяграфіі незвычайныя і трагічныя.

*

## “ДОЎГА Я Ў КАНЦЛАГЕРЫ НЕ БУДУ...”

Змітрок Астапенка. Паэт, празаік, перакладчык. Нарадзіўся 14(29 ст.ст.) лістапада 1910 г. у в. Сяргееўка Шумілінскага раёна ў сям'і настаўніка (дадзеныя НКВД). Месца нараджэння дакладна невядома. Друкавацца пачаў у 1926 г. у часопісе «Маладняк КалінінШчыны». У 1929-м г. скончыў Мсціслаўскі педтэхнікум, дзе вучыўся разам з Ю.Таўбіным, З.Півоваравым, А.Куляшовым, П.Левановічам[2] і інш. З 1930 г. — член БелАППа.

«Змитрок Астапенко, худощавый такой и темноволосый парень, интересовался физикой: он собирался писать приключенческий роман о расщеплении атома. Еще Змитрок изучал немецкий и польский языки, читал в оригинале Гейне и Мицкевича, и, понятно, сам писал стихи, которые, на мой взгляд, были не так самобытны и выразительны, как поэтические опыты его мстиславских однокашников, и предсказать, что когда-нибудь он станет автором прекрасной поэмы «Эдэм», было тогда почти невозможно…

Вот так жила и работала дружная мстиславская «троица», или плеяда, как сказал когда-то К.Крапива, увековечивший юных поэтов в своей сатирической поэме «Федос — красный нос»[†] [3].

Але ўжо ў 1929 г. у вершы, прысвечаным сябрам Ю.Таўбіну і А.Куляшову, З.Астапенка пытаўся:

*Гады за гадамі ідуць у нябыт,*
*Мінаюць гады за гадамі,*
*Мае радакі, дарагія сябры,*
*Ці ж сонца юнацтва не з намі?!*

Шырокое поле, буяны разгон[‡] [4].

У 1930, пераломным, годзе З.Астапенка пераязджае ў Мінск. Скончыўся перыяд нэпманаўскай адлігі, прачнулася бальшавіцкая рэакцыя, і паэт пачынае жыць двайным жыццём. З аднаго боку, ён уваходзіць у творчую групу пад назваю, якая сама за сябе гаворыць, — “Ударны пост” [§] [5] (была арганізавана ў БелАППе), удзельнічае ў Першым усесаюзным з’езде польскіх пралетарскіх пісьменнікаў[**] [6] і

---

†
‡
§
**

г.д. З другога — паведаміў пісьменніку Д. аб тым, што збіраецца ўцячы ў Заходнюю Беларусь, дзе «писатель может писать, что ему хочется, а не исполнять  социальный заказ партии…» Акрамя таго, на ягонай кватэры “собирались писатели… для прослушивания по радио заграничных передач белогвардейцев-эмигрантов…”[††]

Як ужо вядома, аб  варожых радыёчытках дазналіся тыя, каму трэба, і ў  1933 г. З.Астапенка быў арыштаваны і асуджаны да трох гадоў высылкі.

Як ён і іншыя маладыя літаратары ехалі да месца адбывання пакарання мы ведаем з аўтабіяграфіі Змітро Віталіна (Сергіевіча): «Недзе ў верасні… (1933 г. — **Л.М**.) нас пагрузілі ў «цялячы» вагон з кратамі на вакенцах і павязлі на ўсход. Разам са мной ехалі Максім Лужанін, Змітрок Астапенка і Валодзя Сядура… Прывезлі ў Марыінск, дзе размяшчаўся штаб Сіблага. Потым перавялі ў Арлова-Розаўскае аддзяленне гэтага ненаеднага жэрла, дзе праішачыў у якасці раба два гады…»[‡‡] [7]

Аб тым «паходзе» не запамятаваў і М.Кавыль (псеўданім Язэпа Лешчанкі. — **Л.М**.): «З усяго вагону-цялятніка адзін толькі Максім Лужанін пачуваўся трошкі лепш, бо пад галавою ляжалі сухары. На другім ярусе нараў каля Лужаніна ляжалі: Сядура, Гінтаўт і Гайка… Я ляжаў на падлозе каля дзвярэй. Праз шчыліну паміж падлогай і дзвярыма вецер заганяў у вагон сняжынкі. Я дрыжаў ад холаду…»[8]

Нейкі час разам з З.Астапенкам пакаранне адбываў Я.Скрыган. Праз пяцьдзесят гадоў успамінаў пра невытлумачальныя паводзіны паэта ў канцлагеры: «Астапенка стаў задуменны, заклапочана-ўзрушаны… У мяне ён раптам папытаўся, ці не хачу я пабыць у Германіі. Чаго? Навошта? Якім чынам?

— Ах, гэта я так сабе…»[9]

Далейшы лёс З.Астапенкі высветліць, што гэта ўсё было “не так сабе…”

У ліпені 1935 г. паэт па невядомых прычынах (гэта «па невядомых прычынах» яшчэ не раз сустрэнецца ў ягоным жыцці) быў вызвалены з лагера. Пасля вызвалення некаторы час жыў і працаваў у Маскве.

[††] З асабовай справы З.Астапенкі, якая захоўваецца ў КДБ РБ. Хоць апошняя вытрымка і з былога НКВД, але гэтай інфармацыі можна верыць. Радыё ў З.Астапенкі было, і сябры да яго, бязумоўна, наведваліся…

[‡‡]

З асабовой справы З.Астапенкі ў НКВД: «Проживал в Москве, Смоленский бульвар, д. 15, ком. 48... Работал учителем русского языка и литературы в школе № 252»[10]

5 снежня 1936 г. паэт быў паўторна арыштаваны.

З пратакола вобыску:

«Изъято: книги... тетради с записями (рукапісы. — **Л.М**.) — 6 штук, записные книжки — 3 штукі, личная переписка...»

З пратакола допыту пісьменніка Д. ад 3-5 верасня 1936 г. (допыт працягваўся без перапынку трое сутак -— так званы «канвеер»): «Однажды поздно ночью ко мне пришел Астапенко. Он был очень взволнован и сообщил, что у него дома сидят сотрудники ГПУ и ждут его и что ему успела сообщить об этом его хозяйка. Остапенко оставался у меня в комнате до 4-х часов утра, а потом я провел его к его товарищу — молодому писателю Козловскому (мабыць, за той прытулак пазней В.Казлоўскага энкавэдысты і давядуць да таго, што ён звар'яцее. — **Л.М**.), где Астапенко остался ночевать...»[11] Але раніцай З.Астапенка быў арыштаваны...

Толькі пасля 6 месяцаў бесперапынных катаванняў (такога супраціўлення НКВД, магчыма, не ведаў), калі «молодость разбита... здоровье отнято» (словы самога З.Астапенкі), 19 чэрвеня паэт «успомніў», што “с детства отравлен ядом национал-фашистских идей”, што жыў “двурушникам» і з'яўляецца «нацдэмфашыстам”, што ў “к-р арганізацыі” яны абмяркоўвалі пытанні, як «Белоруссия должна стать самостоятельным капиталистическим государством...» і што «белорусская культура в своем развитии должна пройти этап буржуазной культуры...» Таксама З.Астапенка прызнаў, што штрафаваць за выкарыстанне рускай мовай у будучай новай Вольнай Беларусі прыдумаў ён. Восенню 1937 З.Астапенка быў асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі. Па невядомых прычынах адзін Астапенка з усіх, хто праходзіў па яго справе, прызнаў на судзе сябе вінаватым.

У канцлагеры паэтам валодала толькі адна думка — бегчы, бегчы, бегчы: «Доўга я тут не буду ўсё роўна. Хочаш разам?.. (запытаў З.Астапенка Я.Скрыгана. — **Л.М**.)»[12].

Зноў вернемся да ўспамінаў С.Шушкевіча:

«Ноччу, калі людзі ўпокат засыналі на падлозе, Змітрок Астапенка нахіляўся нада мною і шаптаў:

— Пакляніся, што нікому ні слова... Вось што... Пагоняць на этап, выберам зручны момант і ўцячэм. Уцячэм або загінем...

Нарэшце збіраюць этап. Але Астапенка захварэў і з намі на этап не трапіў («не смог сразу ответить на твое, Лена, письмо... был сильно болен...» — пісаў З.Астапенка сястры 1.2.1941 г.)[13].

На лагерным пункце мы ўспомнілі Змітрака:

— Відаць, загінуў хлопец. Наўрад ці хопіць у яго сіл падняцца.

Але Змітрок Астапенка не толькі змог падняцца, але нават змог уцячы з лагера…»[14] Тады тайга прымусіла вярнуцца З.Астапенку ў лагер…

У час вайны З.Астапенку ўсё ж удаецца вырвацца з канцлагера. У паэта з'явілася магчымасць вярнуцца да літаратурнай дзейнасці. У 1943 г., у самы цяжкі час вайны паэт заклікаў:

*Паклянёмся любіць наш край!..*
*Паклянёмся,*
*што ў нашыя сэрцы*
*Не ўкрадзецца ні страх, ні адчай,*
*Ні спалох немінучае смерці.*
Паклянёмся любіць наш край![15]

У канцы верасня 1944 г. З.Астапенка (зноў па невядомых прычынах) «у складзе падраздзялення разведчыкаў з горада Масквы быў перакінуты на тэрыторыю Чэхаславакіі…»[16] (з ліста КДБ сястры паэта). З ліста З.Астапенкі 7.10.1944 г.: «Вот я уже почти на месте. Через 2—3 часа иду дальше на запад… пешком в горы…»[17]

Далейшы лёс З.Астапенкі дакладна невядомы, але некаторы свет на яго праліваецца ў гутарцы Барыса Сачанкі з Масеем Сяднёвым, што адбылася ў 1990 г.:

«У Берліне… (у канцы 1944 — пачатку 1945 г. — **Л.М**.) мы (Х.Ільяшэвіч і М.Сяднёў. — **Л.М**.) атрымалі ліст ад Змітрака Астапенкі. Ён прасіў дапамогі… Ліст гэты пераслалі ў «Раніцу» з рускай газеты, што таксама выходзіла ў Берліне. Яго чытаў мне Уладзімір Дудзіцкі. Змітрака я ведаў, сустракаўся на этапах, у турмах. Ад Змітрака ўсяго можна было чакаць, чалавек ён быў неардынарны, адукаваны, таленавіты, адчайны. Ён неаднаразова ўцякаў (напрыклад, з аднаго з Сібірскіх канцлагераў. — **Л.М**.). Усё магло здарыцца, калі апынуўся ў Славакіі, мог ён там і не загінуць…»[18]

Былы аднакурснік і сябра З.Астапенкі — А.Куляшоў (па сведчанні А.Марціновіча) «не сумняваўся: знаёмы твар (З.Астапенкі. — **Л.М**.) неяк прамільгнуў (у пасляваенны час. — **Л.М**.) у вірлівым маскоўскім натоўпе…» [19]

Яшчэ ў час вайны З.Астапенка пісаў:

*Колькі бачыў. Колькі жыў.*

*Колькі раз кідаўся ў схватку!*
*Я б цяпер шчаслівы быў,*
*Каб пачаць усё спачатку…*

“Абяцаўся толькі раз…”[20]

Але “пачаць усё спачатку” не ўдалося…

У 1929 г. паэту “прысніўся сон: на Доме ўрада трапечацца бел-чырвона-белы сцяг… Каля пад'езда стаяць гайдукі…”[21] Тады ж Юлі Таўбін у вершы, прысвечаным З.Астапенку прадкажа:

*Ты помніш, помніш, безумоўна,*
*І тую ноч, і той настрой,*
*Што панаваў над намі роўна, -*
*І над табой, і нада мной…*
…………………………………………………………………
*А ўжо не вернуцца з гадамі*
*Ні тая ноч, ні той настрой…*

Ты помніш…[22]

Першыя выяўленыя публікацыі З.Астапенкі датаваны 1926 г.
Прыжыццёвыя выданні:
Краіне. Вершы. Мн., 1931.
Абураныя. Вершы. Мн., 1932.
Трактар. Мн., 1933.

## Віктар Казлоўскі

Паэт і перакладчык Віктар (Вінцэсь) Казлоўскі нарадзіўся 24.8(6.9).1905 г. у в. Мрочкі, цяпер Уздзенскі раён Мінскай вобласці, у беднай сялянскай сям'і. У 1924 г. скончыў Капыльскую сямігодку. З 1925 г. у газеце «Савецкая Беларусь», часопісе «Маладняк» і інш. выданнях пачынаюць з'яўляцца першыя вершы паэта. З успамінаў С.Шушкевіча: «У рэдакцыі газеты «Беларуская вёска»… акружылі Кузьму Чорнага, загадчыка літаратурнага аддзела, маладыя паэты Віктар Казлоўскі, Сяргей Дарожны, Валерый Маракоў…»[23]

*«У бюро Менскай філіі «Маладняка»*
*Кандыдата філіі*

*Вінцэся І. Казлоўскага*

*Заява.*

*Я, будучы кандыдатам, шмат папрацаваў над афармленьнем свае творчасьці. І хаця 'шчэ досьць ня выявіў сябе, я ўсё-ж такі лічу, што ўваходжу ў апрэдзелённыя «рамкі». А дзеля гэтага прашу перавесці мяне з кандыдатаў у сябры «Маладняка» 7/XII-25г.”*[24]

Стыль і арфаграфія арыгінала захоўваюцца. На заяве ёсць рэзалюцыя: “устрымацца”.

У 1925 г. В.Казлоўскі паступіў у Мінскі Белпедтэхнікум, дзе ў той час сабраўся амаль увесь цвет настаўніцтва. Таму вызывае здзіўлення, што праз некалькі гадоў вучобы пасля «заяў» В.Казлоўскага ўжо не трэба было пісаць — «стыль і арфаграфія арыгіналу захоўваюцца». У верасні 1927 г. Віктар паступіў у БДУ. Тады ж стаў сябрам «Маладняка».

З артыкула Янкі Бора (адзін з псеўданімаў С.Шушкевіча) “Маладняк” у рабочых”: “Чыгуначнікі з нецярплівасцю чакаюць адчынення вечару. Тысячная аўдыторыя кіпіць сваім жыццём.

Сігналы. Пачатак.

Агалошваецца, што зараз зачытаюць свае творы маладнякоўцы. Зала загрымела ад воплескаў.

Маракоў, Шушкевіч, Фамін, Вішнеўская, Казлоўскі… Маладыя гучныя галасы, поўныя сілы і бадзёрасці, пояць вуха слухача нечым блізкім, нечым родным.

А ў гэты ж самы вечар, на другім канцы Мінска, таксама чакаюць маладнякоўцаў. Клуб дражджавога завода “Пралетарый” біткам набіты рабочымі і работніцамі. Ужо позна — дванаццаць часоў ночы. Прысутныя крыху зморាны канцэртнай часткай, але прыход маладнякоўцаў ажывіў рабочыя твары. Зноў воплескі, зноў напружаная ўвага…”[25]

У 1931 г., ужо скончыўшы БДУ, В.Казлоўскі працягвае ўдзельнічаць у творчых вечарах. Пра адну з такіх сустрэч паведаміў “Маладняк”: «На вечары ў чыгуначнікаў выступалі тт. Кучар, Ліхадзіеўскі, Знаёмы, Астапенка, Казлоўскі і інш…»[26] Да 1935 г. паэт працаваў у розных перыядычных выданнях — БДзВ, СП Беларусі.

Пра далейшы лёс Віктара Казлоўскага згадвае Сяргей Грахоўскі: ”Быў у мяне сябар, выдатны паэт Віктар Казлоўскі, у якога ў 30-я гады з’явілася манія праследавання. Перад самай вайной ён ляжаў у другой клінічнай бальніцы і яго неабходна было адправіць

лячыцца ў Маскву[§§]. Каб не было праблем у час паездкі, яго вырашылі падмануць: сказалі, што выклікаюць у Маскву на пленум Саюза пісьменнікаў. Апранулі Віктара як найлепш — касцюмчык, белая кашуля, гальштук… Суправаджаць яго ўзяліся Мар’я Канстанцінаўна (Хайноўская? — **Л.М.**), загадчыца нашага медпункта, і дырэктар літфонда Левін. Прыехалі яны ў Маскву, на Канатчыкаву дачу, і тут Віктар зразумеў, што да чаго. Мар’я Канстанцінаўна пайшла афармляць дакументы, а да В.Казлоўскага, таму што ён быў добра апрануты, падышоў урач і пацікавіўся, па якім пытанні яны прыехалі. Казлоўскі яму ціха кажа, што, маўляў, яны прывезлі да іх у бальніцу звар'яцелага Левіна. Урач яму паверыў, кіўнуў санітарам, і тыя ўмомант засунулі Левіна ў палату. Пазней прыйшла Мар’я Канстанцінаўна, і ўсё, вядома, зрабілі наадварот…»[27]

“Усю вайну і пасля яе В.Казлоўскі са сваёй невылечнай хваробай… жыў на роднай… Уздзеншчыне”[28], — пісаў А.Махнач[29].

Памёр В.Казлоўскі там жа, дзе і нарадзіўся, непадалёку ад Узды. На помніку на яго магіле чытаем:

*Писатель*
*Козловский*
*Виктор*
*Иванович.*
*Р. 6 сентября*
*1905 г.*
*Умер 24 февраля*
*1975 г.*
*Памяць*
*брата и*
*племянников.*

Як сведчаць былыя сябры і аднакашнікі паэта, шматлікія спробы знайсці кантакт з В.Казлоўскім, вярнуць яго да літаратурнай дзейнасці сустракалі з боку апошняга адно — катэгарычны адказ.

Усе тры зборнікі паэта выйшлі ў 1932 г.: “Музыка працы”, “Рахіль” (экземпляр гэтага зборніка з дарчым надпісам В.Казлоўскага

---

[§§] Па звестках Паўла Пруднікава і Алеся Махнача (апошні выказвае іншую версію «падарожжа ў Маскву»; гл.: ЛіМ. 1994. 24 чэрв.; тамсама расказваецца гісторыя паяўлення ў В.Казлоўскага, які жыў доўгі час у зямлянцы, свайго дома) разам з паэтам у Маскву быў адпраўлены і другі былы маладняковец Ізраіль Плаўнік (брат Змітрака Бядулі), які таксама звар'яцеў. М.Гарэцкі пра І.Плаўніка пісаў: “На яго форме адчуваецца ўплыў вершаў Бядулі, часткаю Купалы і Багдановіча”.

быў канфіскаваны 6 лістапада 1936 г. пры вобыску ў В.Маракова), “Слова аб юнай краіне”.

Ірына Багдановіч пісала: “Вершы В.Казлоўскага <…> вылучаліся адмысловай вобразнасцю, багаццем рытму і паэтычнага сінтаксісу, нечаканымі сакавітымі рыфмамі <…> высокай паэтычнай культурай”[30]:

*Юных дзён нявыпітае шчасце*
*Ўзніме бунт стрывожанай душы.*
*Беларусь не будзе больш бадзяцца, -*
*Залатым убраннем прашуршыць!*

Тачачнік[31]

**Валеры Маракоў**

Паэт, перакладчык. Нарадзіўся 14(27) сакавіка 1909 г. Бацька паэта, Дзмітры Маракоў, разам з маладой жонкай Вольгай, мясцовай дзяўчынай, пасяліліся каля чыгуначнага прыпынку Козырава. “У часе імперыялістычнай вайны (як сведчыць С.Баркоўскі. — **Л.М**.) В.Маракоў разам з сям’ёю жыў у Мцэнску (Расія) і ў Рамнах (Украіна) і толькі восенню 1920 г. (па звестках М.Гарэцкага — у 1919 г. — **Л.М**.) сям’я вярнулася ў Мінск. Яшчэ ў Рамнах В.Маракоў паступіў у рэальнае вучылішча”[32].

У 1924 г. В.Маракоў скончыў 4-ую Мінскую ўзорную школу (сямігодку, — дзесяцігодак у БССР тады не было. — **Л.М**.) і амаль да канца 1925-га працаваў печніком разам з бацькам. Але яшчэ з чэрвеня ў друку пачалі з’яўляцца першыя вершы В.Маракова. І ў снежні па пастанове ЦБ юных піянераў В.Маракоў быў прызначаны сакратаром рэдакцыі часопіса “Піянер Беларусі”. У пачатку 1926 г. В.Маракова прымаюць у літаратурнае аб’яднанне “Маладняк”. Адначасова яго абіраюць членам рэдкалегіі літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса “Маладняк”.

5 снежня 1926 г. літаратурны дадатак да газеты “Савецкая Беларусь” — “Сталёвы ўзлёт”[33] у кнігаспісе маладнякоўскіх твораў паведамляе аб выхадзе з друку першага паэтычнага зборніка 17-гадовага В.Маракова “Пялёсткі”[34]:

*І так пішу… ізноў пішу з натхненнем.*
*Твой васілёк перада мной ляжыць.*
*А за вакном снуюцца і танцуюць цені,*

*Упаў срабрысты месяц на калені,*
*Стаў цалаваць магільныя крыжы.*

Дзяўчыне[35]

Але раней, да выхаду «Пялёстак», «В.Маракоў падрыхтаваў зборнік новых вершаў пад назвай “На залатым пакосе”[36], які выйдзе з друку толькі праз год, восенню 1927 г.

На зборнікі юнага паэта з’явіліся больш дзясятка рэцэнзій. М.Гарэцкі пісаў: “Найбольш асабістае лірыкі ў Маракова… Найлепшымі… паэтамі ў сучасным складзе “Маладняка” ёсць: Маракоў, Моркаўка[37], Трус, Вечар, Фамін, Бандарына[38], Плаўнік, Хадыка і некаторыя іншыя… Маракоў вызначаецца лірычнасцю, эмацыянальнай напружанасцю, гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы і гучанне…”[39]:

*І там, над рэчкай, і над полем*
*Я вып’ю раніцы зару,*
*Каб песняй радасці і волі*
*Праславіць свету Беларусь!*

Цяпер ў грудзях другія словы…

“Маракова заўважыў і акрыліў бацькоўскай ласкай і прыхільнасцю Янка Купала. Народны паэт не раз запрашаў да сябе юнака на сваю кватэру і цешыўся яго першымі творчымі крокамі, даў паэту не адну сваю кнігу з цёплым і шчырым аўтографам»[40].

У канцы 1927 г. аб’яднанне пісьменнікаў “Маладняк” і Наркамат асветы БССР накіравалі В.Маракова на вучобу ў Мінскі Белпедтэхнікум імя У.Ігнатоўскага, але пасля двух курсаў (у 1929-м г.) яго адазвалі з вучобы і прызначылі загадчыкам літаратурнага аддзела газеты “Савецкая Беларусь”, дзе ён і працаваў з невялікім перапынкам да канца 1930 г.

«З Мінскага Белпедтэхнікума выйшла шмат маладое беларускае інтэлігенцыі, тае эліты, якая пазней станавіла галоўную турботу органаў НКВД і амаль уся была высланая ў канцлагеры»[41], — пісаў Уладзімір Сядура (Глыбінны).

У ліпені 1929 г. буйнейшы літаратурны часопіс "Маладняк" аддае большую частку сёмага нумара В.Маракову. (Тады ж паэт, нямала рызыкуючы, тайна прыязджае да А.Дудара ў ссылку ў

Смаленск.) У часопісе публікуецца і паэма 19-гадовага В.Маракова — "Муляр":

*Я ўспрымаю ўсё без краю.*
*Я рад за юных і жывых,*
*Яны і сэрцам не згараюць,*
*І на кастры чужога краю*
*Не хіляць гордай галавы!*

У гэтым жа "Маладняку" з "літаратурным партрэтам"-рэцэнзіяй на адзінаццаці старонках пра В.Маракова выступіў А.Кучар. Нягледзячы на некаторую суб'ектыўнасць артыкула, варта адзначыць, што А.Кучару ўдалося паказаць В.Маракова не толькі як паэта, але і як чалавека, хоць уплыў Л.Бэндэ[42] пачынаў ужо адчувацца.

28 мая 1930 г. В.Маракоў чытае свой новы верш “Янку Купалу” на вечары з нагоды 25-годдзя літаратурнай дзейнасці вялікага песняра.

З успамінаў Э.Агняцвет: “Хросным бацькам Валерыя Маракова быў Янка Купала. Помню цёплы, усхваляваны голас Маракова на Купалаўскім ушанаванні ў Доме асветы”:

*За песні і думы*
*Мы любім паэтаў,*
*За кожнае слова,*
*За кожны радок,*
*Што нашым агнём*
*І трывогай сагрэты…*
*Купала,*
*Вам гэты вянок!*[43]

Янку Купалу

Восенню 1930 г. выйшла з друку кніга паэзіі В.Маракова “Вяршыні жаданняў” (цытуецца першы варыянт верша «Жыццё, як мора-акіян»):

*Шчаслівы я, што тут жыву.*
*Й за гэты край вясной вялікай,*
*Быць можа, знімуць галаву,*
*Праколяць цела вострай пікай.*

У № 8 “Узвышша” (1930) змешчаны вялікі артыкул М.Лужаніна “Думкі пра паэзію Валерыя Маракова...”[44]

Красавік 1931 — чэрвень 1934 гг. — вучоба (адначасова з працай у часопісе «Чырвоная Беларусь» і інш. выданнях) у Мінскім Вышэйшым Белпедінстытуце. Разам з В.Мараковым вучыліся: Э.Агняцвет, З.Бірала, С.Левін, Ю.Лявонны, С.Мурзо, З.Півавараў, Г.Раманоўская, П.Хатулёў, С.Шушкевіч і (верагодна) П.Ананьеў[45], М.Блісцінаў[46] і Я. Зазека[47].

Увосень 1933 г. з другой спробы выйшаў з друку (ужо знявечаны цэнзарамі) зборнік вершаў В.Маракова «Права на зброю». Нягледзячы гэта ў зборніку ёсць і радкі, аб якіх “у свой час” успомняць у НКВД:

*Чалавек —*
*гэта вам не мумія, —*
*ўзяў са склепу*
*і вытурхнуў вон,*
*чалавек —*
*гэта сад*
*з залатымі думамі,*
*дзе па жылах праходзіць*
*блакітны агонь.*

Рахунак паэта, пададзены да аплаты

У студзені 1934 г. у “ЛіМе” з’явілася рэцэнзія М.Клімковіча «Пра кніжку В.Маракова «Права на зброю». Нават пасля “працы” цэнзараў крытык піша: “Некаторая частка вершаў носіць яскрава выражаны варожы характар нашай сапраўднасці... Асноўныя памылкі <...>: прапаганда буржуазнай тэорыі надкласавасці мастацтва... Сцверджанне “права” паэта стаяць у баку ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва... Няправільнае, скажонае адлюстраванне нашай рэчаіснасці, няправільныя рэцэпты выпраўлення недахопаў... Пасіўная роля наглядальніка прыводзіць паэта да хворага песімізму...”[48]

У пачатку 1935 г. В.Маракоў паехаў у мястэчка Чэрнеўка Барысаўскага р-на. Там ён працаваў да 1 сакавіка 1935 г., а потым вярнуўся ў Мінск, дзе прыступіў да творчай працы па напісанні рамана «Вечная крыніца» і п’есы.

21 сакавіка В.Маракова арыштавалі першы раз. Па сведчанні М.Клімковіча, у той час у Беларусі з пісьменнікаў быў арыштаваны адзін В.Маракоў. Тут М.Клімковіч памыляўся. Хоць і сапраўды 1935 год на арышты быў даволі «сціплы», але акрамя В.Маракова ў "амерыканке" апынуліся: Аляксандра Бергман[49], Юрка Гаўрук[50], Сяргей Дзяргай[51], Дзмітры Дражвецкі[52], Мікалай Кійко[53], Кліменцій Крачкоўскі[54], Аляксандр Стэфановіч[55], Сяргей Фамін, Пётр Юргелевіч[56]. Наогул гэта быў год «зацішша перад бурай». Тады Валеры яшчэ не ведаў, што і бацьку свайго ён бачыць у апошні раз…

У маі 1935 г. за «обрабатывание в антисоветском духе населения города Минска и ближайших районов»[57] былі арыштаваны «главари крупной антисоветской организации» — епіскап г. Мінска Н.А.Семяняка[58], настаяцель Козыраўскай царквы І.П.Зянюк[59], стараста Козыраўскай царквы Дз.З.Маракоў, бацька паэта, і іх «дапамагатыя» (усяго 25 «ворагаў народа»). У жніўні 1935 г. у 55-гадовым узросце Дз.Маракова асудзяць да пяці гадоў канцлагераў (у канцлагеры і ссылцы прабудзе больш дзесяці, усе гады зняволяння працуючы ў шахтах). Апошні раз «объяснение» ў НКВД (КДБ) Дз.Маракоў напіша ў 80-гадовым узросце… Памёр Дз.Маракоў 18 лістапада 1968 г. Ён так ні разу і не атрымае сумленна запрацаванай пенсіі, бо не меў дакументаў (НКВД іх «чамусьці» страціў, як і асабовую справу), якія б пацвердзілі яго працоўны стаж (каля 70-ці гадоў)…

У маі 1935 г. на Валерыя Маракова НКВД запросіць з СП Беларусі характарыстыку, якую старшыня саюза М.Клімковіч даручыць зрабіць А.Кучару. Той і напіша характарыстыку, якая больш нагадвала абвінаваўчае заключэнне. Але 7 ліпеня справа В.Маракова была спынена, і ён быў выпушчаны з Мінскай турмы НКВД.

6 лістапада 1936 г. паэта зноў арыштавалі. Арышт быў праведзены супрацоўнікам ОО УГБ НКВД БССР Авербухам згодна з ордэрам № 700, выдадзеным 3.11.1936 г. і сапраўдным адны суткі (арыштавалі па ўжо несапраўдным ордэры — беззаконнасць у беззаконнасці).

Як потым высветлілася, выпадак узброенага супраціўлення пісьменніка пры арышце ўсё ж мог мець месца. Паводле слоў Тодара Кляшторнага, сказаных у верасні 1936 г. у Доме пісьменніка М.Багуну і П.Хатулеву, даведваемся, што «Маракоў, калі ад'язджаў з Мінску на раён, узяў з сабой наган і казаў, што будзе са зброяй у руках бараніць сябе…»[60] Калі б В.Маракова арыштоўвалі не на Мінскім вакзале, а ў пакоі, які ён здымаў у Барысаве, і дзе, магчыма, прыхаваў так і не

знойдзены энкавэдыстамі наган, апошнія вымушаны былі б браць пісьменніка з боем…

Пасля года катаванняў ужо знявечанага паэта выязная сесія ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР прыгаварыла да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці. Прыгавор у сілу Пастановы ЦВК СССР ад 1 снежня 1934 г. падлягаў неадкладнаму выкананню.

Ужо ў наш час Сяргей Грахоўскі напісаў: «Не магу ўявіць, у якога звера паднялася лапа, каб стрэліць у патыліцу аўтарам "Босых на вогнішчы", "Спалоху на загонах", "Сцежак-дарожак", вершаў, якія ён, напэўна, вучыў на памяць у школе. Уяўляю, каб у гушчары пушчы сустрэўся галодны воўк з блакітнавокім, залатавалосым Валерыем Мараковым, у яго апусцілася б хіжая лапа, ён саступіў бы сцежку паэту, абароненаму аўрай дабра і натхнення»[61].

Рэабілітавалі В.Маракова праз трыццаць гадоў пасля арышту — 10 верасня 1956 г.

## **“Увесь час успамінаў Беларусь...”**

Празаік, крытык, і перакладчык Аркадзь Мардвілка нарадзіўся 24 жніўня 1905 г. у в. Языль, цяпер Мінская вобласць, у сям'і настаўніка. У пачатку першай сусветнай вайны сям'я з’ехала ва Ульянаўск. Там у студзені 1916-га Аркадзь паступіў у гімназію. Пасля заканчэння грамадзянскай вайны сям'я вярнулася на Бацькаўшчыну. Аркадзь захапляецца літаратурай, спрабуе рабіць нешта сам. Неўзабаве піша заяву ў літаратурна-мастацкае аб’яднанне “Маладняк”:

*«Бюро Менскай філіі Маладняку*

*Заява.*

*Жадаючы працаваць дзеля развіцьця і пашырэньня беларускай пралетарскай (рабоча-сялянскай) культуры ў галіне пісьменства, прашу Бюро філіі залічыць мяне кандыдатам у сябры Менскай філіі “Маладняка”.*

*Даважу да ведама філіі, што пісаць толькі пачынаю і сваё першае апавяданне «Памылка» надта хацеў-бы прачытаць на адным з наступных сходаў філіі.*

*Аркадзь Мардвілка*
*6.XI.1925 г.*
*Менск, Маскоўская вуліца 10, кв.6”*[62].

На заяве ёсць рэзалюцыя: часова ўстрымацца.

Часова расцянулася на два гады. У 1927-м Аркадзь стаў сябрам «Маладняка», а праз год БелАППа. А.Мардвілка знайшоў сабе як літаратурны крытык. М.Гарэцкі адзначыў: «У 1927 г. з'яўляюцца… рэцэнзіі… Мардвілкі…»[63], і далей пры разглядзе творчасці В.Каваля і інш. ён неаднаразова спасылаўся на рэцэнзіі А.Ляснога (А.Мардвілкі).

У 1929-м А.Мардвілка паступіў у БДУ. Не пакідае і літаратурную працу. З'яўляюцца ягоныя рэцэнзіі на кнігі Я.Купалы, З.Бядулі, В.Маракова, В.Каваля, М.Нікановіча, М.Лынькова і інш.

З 1931 г. А.Мардвілка працуе ў Беларускім аўтадарожным інстытуце, выкладае англійскую мову. У 1933 г. яго арыштавалі і праз паўгода асуджалі да трох гадоў пазбаўлення волі. У 1935 г. ён вызваліўся і жыў у Ташкенце. «Працаваў ва Усесаюзным НДІ бавоўнаводства, Узбекскім універсітэце, Ташкенскім сельскагаспадарчым інстытуце. У 1944-1945 служыў у арміі. З 1946 г. — у АН і Дзяржаўным выдавецтве (з 1950) Узбекскай ССР»[64]. У 1956 г. А.Мардвілка абараніў кандыдацкую дысертацыю. У 60-70-ыя гады часта бываў у Мінску — наведваў свайго сябра, таксама перакладчыка, — Ю.Гаўрука. Да 1985 г. працаваў у Рэспубліканскім інстытуце рускай мовы і літаратуры. Памёр 27.10.1986 г. у Ташкенце.

Як памёр Аркадзь Мардвілка мы ведаем з ліста Ніны Аркадзьеўны Мардвілкі да С.П.Шушкевіча:

*«Уважаемый Станислав Петрович!*

*Пишет Вам дочь Аркадия Петровича Мордвилко, чтобы сообщить печальное известие — 27 октября отец умер. Произошло все неожиданно. 25–го утром он встал, как обычно, сел завтракать и вдруг упал. Так, не приходя в сознание, и пролежал двое с половиной суток. Врачи сказали — обширный инсульт. До последнего времени папа не болел особенно, все время ходил, недалеко, правда, так как видел плохо. На похоронах были его бывшие сотрудники, сказали много теплых слов. Для нашей семьи потеря эта ужасна. Большая часть нашей жизни была связана с папиной родиной — Беларусью, которую он очень любил, все время вспоминал — теперь все это от нас уходит.*

*Большое вам спасибо за внимание, которое Вы оказывали Аркадию Петровичу.*

*С уважением Нина Аркадьевна»*[65].

Рэабілітаваны А.Мардвілка быў толькі пасля смерці, у 1988 г.

**Ліст з таго свету**

Паэт і перакладчык Юлі Таўбін (Юдаль Абрамавіч Таўбін) нарадзіўся 2(15) верасня 1911 г. у г. Астрагожск Варонежскай губерніі ў сям'і аптэкара. Дакладна пакуль невядома, але верагодней за ўсё ў беларускі горад Мсціслаў Таўбіны пераехалі (магчыма, вярнуліся) пасля заканчэння грамадзянскай вайны. Калі ў 1927 г. Юлі скончыў мясцовую сямігодку, у друку («Маладняк Калініншчыны», “Чырвоная змена”, “Світаньне” і іншых выданнях) ўжо пачалі з’яўляцца ягоныя творы. Гэта былі вершы-спадзяванні, напоўненыя верай у шчаслівую будучыню (тут і далей прыводзяцца вытрымкі з першых варыянтаў твораў паэта):

*Нас мільёны… Мы інакшай*
*Лепшай долі кавалі!*
*Нашу долю, наша шчасьце*
*Мы ў жыцьці сабе знашлі…*

Гэта нам[66]

*І пойдзем мы па той дарозе*
*Да сонца яснага ў паход…*
*Ня спусьцім рукі ў зьнямозе,*
*Калі каменьня на шляхох…*

Да перамогі[67]

Тады ж 16-цігадовы паэт асмеліўся адгукнуцца і на прысваенне Якубу Коласу звання Народнага паэта:

*Песьня, любая сэрцу юнацкаму,*
*Разьліваецца ў шэрагі хат…*
*Прывітаньне ж табе маладняцкае*
*Ад дзяцей тваіх—арлянят!*

Якубу Коласу[68]

У 1928 г. Ю.Таўбін паступіў у Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум (адначасова стаў сябрам аршанскай філіі “Маладняка”, пачаў друкавацца ў аднайменным часопісе філіі). Разам з ім вучыліся Змітрок Астапенка, Аркадзь Куляшоў (пазней вядомая “тройца

мсціслаўцаў»), будучы выпускнік першага выпуска прафесійных літаратараў Мінскага Вышэйшага педінстытута (1934), “камсамольскі паэт” (як называў яго аднакурснік С.Шушкевіч) Зяма Півавараў, будучы “ўдзельнік вызвалення Заходняй Беларусі” (І.Багдановіч), дзіцячы пісьменнік Павел Левановіч, Ганна Сапрыка[69]…

З самых маладых гадоў Юлі адчуў сябе менавіта беларускім паэтам (хоць паходзіў з яўрэйскай сям’і):

*Люблю свой край, дзе вечары*
*Ў далёкім небе сцеляць столкі*
*І промні ранічнай зары*
*Вітаюць юныя пасёлкі.*
*………………………………………………*
*Ах, гэты край нізін і круч,*
*Равы, суглінкавыя пашы…*
*Табе ў адзнаку — “Беларусь”*
*Надалі назву продкі нашы…*

Люблю я край…[70]

У Мсціславе юны Ю.Таўбін, нібы здолеўшы зазірнуць за небакрай свайго лёсу, напісаў верш з назвай-прысвячэннем “Сяргею Фаміну”. З гэтай таўбінаўскай надзвычайнай здольнасцю прадбачыць будучыню сустрэнемся яшчэ не аднойчы. Магчыма, сапраўды паэту, як ён пісаў у 1925 г. у вершы «Сінія далі…»: «Шмат… [што] прарочаць//Шмат чаго дарацъ//Цёмныя ночы//Сьветлыя мары”…[71] Эпіграфам да верша «Сяргею Фаміну» Ю.Таўбін возьме вядомыя радкі Тодара Кляшторнага (расстралянага ў 1937-м разам з Ю.Таўбіным) “Агаркі зары дагарэлі,// А песні ў душы не згарэць”[72]. У гэтым вершы, як бы завочна перакрыжуюцца лёсы будучых пакутнікаў сталінскага рэжыму:

*Калісьці, ў далёкія годы,*
*Мы сьнілі цудоўныя сны,*
*І многа прыгожых мэлёдый*
*Ўлівалася ў сьпевы вясны.*
*………………………………………………………*
*Я знаю юнацтва праходзіць,*
*Як хвалі, сплываюць гады…*
*На кожным крутым пераходзе*
*Губляюцца сілы заўжды.*

*А мы будзем жыць і змагацца,*
*І слава таму, хто пранёс*
*Ліхія свае васемнаццаць*
*Праз замяць жыцьцёвых палос.*

У 1929 г. паспяхова пачатая беларусізацыя спыняецца (дакладней яе спыняюць). Мсціслаўскі педтэхнікум зачыняецца. З.Піваварвў адпраўляецца ў Ленінград, а П.Левановіч, Г.Сапрыка і “тройца” пераязджаюць у Менск. У сталіцы з Ю.Таўбіным і пазнаёміўся будучы “беларус сярод узбекаў” Сцяпан Ліхадзіеўскі, які потым успамінаў: «Юлі Таўбін… Гэта быў юнак, ад прыроды ўзнагароджаны вялікім паэтычным талентам. Сціплы, добры, таварыскі, чалавечны, ён выклікаў да сябе ўсеагульную любоў і павагу». Пазней Сяргей Грахоўскі таксама адзначыў, што “сярод пісьменнікаў Таўбін быў адметны ад усіх: зрэнкі аксамітна-чорных вачэй, здавалася бачаць навылёт, выразныя тоўстыя губы нечым нагадвалі Пушкіна, у свае дзевятнаццаць гадоў ён хадзіў трошкі сагнуты, нібы толькі ўстаў з-за стала. Можа так і было…”[73] Мабыць з апошняга сказа С.Грахоўскі і возьме назву сваёй кнігі ўспамінаў “Так і было” з якой і ўзята гэта вытрымка.

У Менску Ю.Таўбін адразу трапляе ў “гушчу падзеяў” — уступае ў БелАПП, шмат піша, выступае, актыўна друкуецца. Нярэдка працуе ў сааўтарстве са старымі сябрамі А.Куляшовым і З.Астапенкам (сумесна ў асноўным робяць пераклады, пішуць пародыі, казкі і вершы для дзяцей), з беларускім Пастэрнакам У.Хадыкам, будучым аднакурснікам В.Мараковым, узвышэнцам С.Дарожным, “вялікім эрудытам” А.Розным. Апошніх двух чакае аднолькава-трагічны лёс: у час другой сусветнай вайны яны загінуць ў сталінскіх канцлагерах…

15 верасня 1929 г. Ю.Таўбін удзельнічаў у Доме пісьменніка (знаходзіўся па вуліцы Савецкай, 68, — былое кафе “Вясна”) ў жалобным вечары памяці П.Труса, які адбыўся ў Белпедтэхнікуме і быў наладжаны БелАППам. Як пісаў “Маладняк”, “пасля дакладу М.Аляхновіча аб творчасці паэта і чытання вершаў Труса выступілі з творамі, прысвечанымі нябожчыку, Маракоў, Каваль, Таўбін, Плаўнік, Вечар. Сабралося шмат слухачоў, галоўным чынам моладзі”.[74]

На працягу года паэт удзельнічаў у літаратурных вечарах у БДУ, у клубах Чыгуначнікаў, Будаўнікоў, Друкароў, выступаў на агульнаадукацыйных курсах, рабфаках, вячэрніх школах, у профшколе краўцоў, заводзе «Эльвод», цагельным заводзе, перад

чырвонаармейцамі… Выязджаў у Віцебск, Бабруйск, Мсціслаў, Заслаў'е… Уваходзіў (разам з З.Астапенкам, А.Куляшовым, П.Галавачом, В.Мараковым, С.Шушкевічам, Б.Мікулічам) у арганізаваную пры БелАПП новую творчую брыгаду «Ударны пост»… Здаў у друк зборнік «Краіне» (надрукаваны не будзе), напісаў паэму «Гарадок»[75]… Разам з З.Астапенкам рыхтаваў зборнік перакладаў дваццаці пяці аўтараў на расійскай мове з паэзіі БелАПП «Песни молодой Белоруссии». Асобна перакладаў паэмы П.Труса («Дзесяты падмурак») і І.Харыка («Душою і целам»), камедыю А.Безыменскага[76] «Выстрел»… Друкаваўся ў «Маладняку», «Полымі», «Узвышшы», расійскіх выданнях… Уладзімір Сядура пісаў: «З кожным новым творам гэтага аўтара (Ю.Таўбіна. — **Л.М**.) прыходзіцца з вялікім задавальненьнем адзначаць бясспрэчны творчы рост паэта»[77].

Любімымі паэтамі Ю.Таўбіна былі А.Пушкін і Г.Гейнэ. Любоў да апошняга, як успамінаў С.Шушкевіч, падзялялі не ўсе: «У вялікім пакоі Дома пісьменнікаў заўсёды было людна. Збіралася сюды большай часткаю літаратурная моладзь. І ў гэты дзень расселіся на канапах Змітрок Астапенка і Максім Лужанін, Уладзімір Хадыка і Сцяпан Ліхадзіеўскі, Валерый Маракоў і Юлій Таўбін. Праз нейкую гадзіну прыплялося сюды яшчэ з паўдзесятка вядомых і невядомых літаратараў. Юлій Таўбін меў пад пахаю кіпу кніг. Адна з іх — томік выбраных вершаў Генрыха Гейнэ. Таўбін прачытаў у голас вершы на нямецкай мове. Усе слухалі няўважліва, рэдка хто з прысутных разумеў па-нямецку (магчыма, толькі З.Астапенка. — **Л.М**.). Таўбін разгневаўся, адасобіўся ад усіх і маўкліва чытаў сам сабе вершы любімага паэта…»[78]

Увосень 1930 г. выходзіць першы зборнік Ю.Таўбіна «Агні»[79]. «Матывы вернасці і сяброўства, ролі паэта і паэзіі вызначалі ўнутраны змест яго твораў» (Т.Тарасава[80]). «Але Таўбіну яшчэ не хапае адзінства лірычнай і грамадзянскай тэмы <…>, [хоць] пяро Таўбіна і садзейнічае збліжэнню публіцыстыкі з лірыкай" (Р.Бярозкін). Эпіграфам да зборніка «Агні» Ю.Таўбін узяў наступныя радкі Ул.Дубоўкі: «Агні гарэць, агні гарэць над краем…»[81] На гэта звярнуў увагу крытык Н.Кабакоў[82]. У рэцэнзіі на зборнік ён пісаў: «І вось цікава. Паэт, член пролетарскай організацыі пісьменнікаў, дае мотто да сваёй кніжкі вытрымку з заядлага беларускага контррэволюцыянера паэта Ул.Дубоўкі. Гэта першае, што асабліва кідаецца ў вочы. Па-другое, ва ўсей кніжцы мы не знайшлі ніводнага слова, дзе гаварылася-б аб партыі, аб рабочам класе, які будуе сацыялізм…»[83] Здаецца тут, Н,Кабакоў дарма «накідваўся» на паэта. "Аб партыі" сапраўды ў зборніку не "гаварылася", але пра яе «близнеца-брата» ёсць:

*Мы верым, што сэрцы не могуць згараць,*
*І хай мы згарым у імкненнях,*
*А будзе натхняць*
*І другіх запаляць*
*Імя непаўторнае:*

ЛЕНІН[84]

Ды і ці магчымы быў у той час выхад зборніка без гэтых “ленінскіх” радкоў?

Па іншаму ацаніў «Агні» Ізыдор Плашчынскі (брат паэта Я.Пушчы): «Назва зборніка адпавядае асноўнаму настрою, што праходзіць праз яго. Гэта агні адчутай радасці ад сучаснага жыцця, еднасці з ім, захаплення ім… У гэтай радасці няма крыклівага пазёрства: гляньце, які я рэвалюцыянер! Тут няма фальшы…»[85]. Не згадзіўся з Н.Кабаковым і С.Ліхадзіеўскі: «Рэцэнзія (Н.Кабакова. — **Л.М**.) у сваёй аснове мае зусім няправільную ўстанову… Таўбін пралетарскім паэтам ня быў і не з'яўляецца…»[86] У сваю чаргу з С.Ліхадзіеўскім не згадзіцца часопіс «Маладняк», які залічыў Ю.Таўбіна (як і самаго С.Ліхадзіеўскага) “у пралетарскія паэты…”[87]

У гэтым жа годзе «Маладняк» ў лістападаўскім нумары паведамляе, што «Юлі Таўбін рыхтуе кніжку вершаў «Экзамен». Зборнік гэты так і не выйшаў, а вось экзамены Ю.Таўбіну трымаць давялося…

З восені 1931 г. ён — студэнт Мінскага Вышэйшага педінстытута, дзе пачынае вучыцца разам са старым знаёмым Зямам Піваваравым, маладымі, але ўжо вядомымі пісьменнікамі В.Мараковым, С.Шушкевічам, Г.Раманоўскай[88], Э.Агняцвет, Ю.Лявонным, П.Хатулёвым, З.Біралам і інш. Адначасова з вучобай працягвае актыўную літаратурную дзейнасць і як паведаміў “Маладняк” (1931. № 2): “5 лютага 1931 г. адбыўся творчы вечар членаў БелАПП Ю.Таўбіна, Э.Астапенкі і А.Куляшова. У абгаварэньні твораў прынялі удзел т. т. Галавач, Ліхадзіеўскі, Барашка, Багун, Кучар, Мікуліч, Бэндэ. Т.т., падкрэсьліваючы значны фармальны рост Таўбіна, Астапенкі і Куляшова, рэзка крытыкавалі адставаньне іхняй поэзіі ад задач рэканструкцыйнага перыоду, спыняліся на паасобных зрывах у творчасці: концэнтрацыя тэматыкі вакол свайго “я”, псыхокапанне (Таўбін), панаваньне інтымных матываў і захапленьне прымітывам сялянскага жыцця (Астапенка), пацыфізм, “крыўда”

супраць усякай вайны, недастатковае разуменьне рухаючых сіл нашай пролетарскай рэвалюцыі (“Крыўда” А.Куляшова[89] і інш.)”[90].

Нягледзячы на “паасобныя зрывы ў творчасці”, 1931 год стаўся найбольш плённым у жыцці паэта — амаль адзін за адным выходзяць тры яго зборнікі: “Мая другая кніга”[91], “Каб жыць, спяваць і не згарэць”[92] і ”3 паэмы”[93]. Пасля выхаду апошняга С. Анісаў[94] амаль дапытвае Ю.Таўбіна: “Дзе ж [у зборніку] партыя, яе роля, кіраўніцтва Ленінскім камсамолам, моладзю?”. Далей палкі крытык ледзь не загадвае: “Таўбін павінен рашуча перабудавацца, аўладаць марксысцка-ленінскім светапоглядам…”[95]

У 1932 г. з’яўляецца асобным выданнем “паэма (над якой Ю.Таўбін працаваў больш года) пра перасяленне яўрэяў на зямлю Крым” (выраз С.Ліхадзіеўскага) «Таўрыда» — апошняя прыжыццёвая кніга Ю.Таўбіна:

*Так і мы сёння кончым стратай*
*Свой працоўны і просты шлях,*
*Каб шматкі нашых строф ці статуй*
*На вяках насіла зямля.*

Зноў паэт прадбачыць будучыню…

10 жніўня 1933 г. студэнт трэцяга курса педінстытута Ю.Таўбін асудзілі як «нацдэм» і прыгавораны да двух гадоў высылкі. Потым В.Куляшова ўдакладніць, што «повадам для першага арышту Юлія Таўбіна стаў ліст з-за мяжы ад цёткі, якая нібыта пераехала з Польшы ў Амерыку…»[96]

У 1933—35 г. Ю.Таўбін знаходзіўся ў Цюмені. Жыццё паэта ў высылцы часткова высвятляецца ў кнізе С.Шушкевіча “Вяртанне ў маладосць”: “Праз некалькі тыдняў прыляцела да мяне (С.Шушкевіча. — **Л.М**.) нечаканая вестка. Украінскі таварыш (пісьменнік Нікіфар Белаконь. — **Л.М**.) напісаў, што з Юліем Таўбіным <…> даводзілася яму сусракацца ў рэдакцыі цюменскай газеты «Советский север» на пасяджэннях літаратурнага аб’яднання <…>: “гарнуліся мы усе да яго, да Юлія. Сардэчным ён быў чалавекам. Ягоная усмешка, ягоны лагодны твар былі заўсёды ветлівымі. Ён ніколі не павышаў голасу, размаўляючы з намі аб нашых невыспелых вершах, хоць патрабаванне да творчасці было вялікім…” Далей паведамлялася, што… калі Н.Белаконь працаваў дырэктарам вандроўнага рабоча-калгаснага тэатру, да яго часта заходзіў Юлі Таўбін, чытаў яму новыя вершы і паэму “Міхайла” (не захавалася. — **Л.М**.), якую ён скончыў у

1934 г. І што цікава, Ю.Таўбін праявіў сябе ў тыя гады і як драматург: напісаў эстрадную п'есу ў 12 абразках…"[97]

У высылцы паэт вывучаў англійскую мову (ужо ведая нямецкую і польскую), перакладаў з яе.

4 лістапада 1936 г. Ю.Таўбіна паўторна арыштавалі і этапіраваны ў Мінск, дзе 29 кастрычніка 1937 г. маскоўская выязная «тройка» прысудзіла яго да расстрэлу. У наступную ноч Ю.Таўбіна разам з Тодарам Кляшторным і Янкам Нёманскім расстраляюць. Але незадоўга да арышту, нібы прадчуваючы яго, паэт паслаў у Ленінградскае аддзяленне выдавецтва «Художественная литература» падборку перакладаў вершаў Альфрэда Хаўсмана[98], якія потым увайшлі ў зборнік «Антология новой английской поэзии» (выйшаў праз 20 дзён пасля расстрэлу паэта). Праз пераклад верша англійскага паэта "Законы Бога и людей» Ю.Таўбін выказаў сябе і свой час:

*…Себе другой избрал я путь —*
*Они хотят меня вернуть.*
*Но я, хуля законы их,*
*Им не навязывал своих.*
*Мол, как угодно, господа, -*
*Раз вы туда, так я сюда.*
*Так нет же! Им стерпеть нельзя,*
*Что у него своя стезя.*
*Они грозят — иди назад,*
*Не то — тюрьма, петля и ад.*
*Как не робеть мне! Суд их скор.*
*Могу ль вступить в неравный спор?*
*Не я построил этот мир.*
*Я в нем блуждаю, чужд и сир.*
*Хоть глупые, но господа –*
*Они. Их сила, их права.*
*А нам на Марс не улететь*
*С тобой, душа моя… Так впредь*
*Смирись и следовать сумей*
*Законам Бога и людей…*

Законы Бога и людей…[99]

Так Ю.Таўбіну ўдалося адправіць нашчадкам ліст з таго свету.

Праз многія дзесяцігоддзі Станіслаў Шушкевіч у вершы «Чакаю вас дарма» (1988), прысвечаным Ю.Таўбіну, напіша:

*І раніца прыйшла, мы салаўя пачулі*
*Ён пеў для нас. Ноч правялі без сну.*
*Аркадзь, Змітрок, я, Станіслаў, і Юлі*
*Так сустракалі светлую вясну.*

*Прыйшоў я сёння ў той старэнькі сад.*
*Адзін я тут. Чакаю ўсіх дарма.*
*Іскрыцца на траве халодная раса.*
*Няма вас, дарагіх, даўно няма*[100]*.*

Няма ўжо паэтаў-пакутнікаў, няма і іх катаў. Але ёсць памяць, вечная памяць пра Вас, беларускія пісьменнікі "першага прызыву". Вечная памяць нявінназабітаму Юлію Таўбіну, самаму маладому з расстраляных беларускіх паэтаў.

## "Паглядзі, вось кабінет Гікалы..."

Станіслаў Шушкевіч, паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, нарадзіўся 6(19) лютага 1908 г. у в. Бакінава Мінскага павету ў сям'і лесніка. Яшчэ ў школе, у прыгарадзе Мінска — Сеніцы, яго настаўнікамі былі А.Бабарэка (будучы вядомы крытык «Узвышша»), мастакі У.Кудрэвіч[101] і А.Тычына[102], А.Сонцава[103].

Першы верш, прысвечаны смерці Леніна, С.Шушкевіч надрукаваў у 1924 г. У 1926-м уступіў ва Усебеларускае літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Маладняк».

Павел Пруднікаў так апісваў маладога паэта: «Каранасты, жвавы, невысокага росту. Яго бялявыя валасы не любілі грэбеня, самі па сабе кучараваліся. Сам жа ён быў надзвычайна шустры, непаседлівы. Здавалася, што заўсёды кудысьці спяшаецца, хоць да таго часу... паспеў ужо надрукавацца амаль што ва ўсіх рэспубліканскіх газетах і часопісах...»[104]

Разам з В.Мараковым С.Шушкевіч вучыўся ў Белпедтэхнікуме (з 1927) і ў Мінскім Вышэйшым педінстытуце (1931-34). У 1929 г. яго выключаць з камсамола за абарону кулацкага сына Міколы Улашчыка, які працаваў (як і С.Шушкевіч) сакратаром кніжнай палаты пры Беларускай Дзяржаўнай бібліятэцы. Сваё

членства ў камсамоле (па парадзе П.Броўкі) С.Шушкевіч не аднаўляў. У маі 1934 г. выйшла першая кніжка (складзена цалкам з патрыятычных вершаў) С.Шушкевіча "Вершы":

*Смерці-старасці адвечны жах*
*Не стрымае моладасці, гарту.*
*Звіс крылом падбіты чорны жаль,*
*Жыць так хочацца, і жыць так варта.*

Над магілай[105].

Паэта прымаюць ў сябры СП Беларусі. Пасля заканчэння інстытута С.ён працаваў у газ. «ЛіМ» (1934-1935) і «Звязда» (1935-1936). 15 лістапада 1936 г. паэта арыштавалі.

«Камера, у якой С.Шушкевіча трымалі, знаходзілася ў падвале Мінскай турмы НКВД, што па вуліцы Валадарскага. Іх было чацвёра: інжынер з мінскага завода «Эльвода» (так да вайны называлі гарадскую электрастанцыю), па прозвішчы Багдановіч, ветурач Валахановіч, польскі камуніст, якому не дазвалялася нават называць сваё імя, а толькі парадкавы нумар, і ён… Камера С.Шушкевіча была пад нумарам 14, а яго суседзямі ў камерах 15 і 16 сталі Браніслаў Тарашкевіч[106] і Ізі Харык. У камерах з другога боку турэмнага калідора — 11, 12 і 13 — былі смяротнікі, якія чакалі выканання прысуду.

Польскі камуніст, які знаходзіўся разам з С.Шушкевічам, перастукваўся з Тарашкевічам, і ад яго пачуў апошнія словы пра тое, што ён не выжыве, бо каты перабілі ўсе косці…[***]

За дзень да адпраўкі ў лагер адбыўся яшчэ эпізод… Вяртаючыся ў камеру, каб забраць рэчы і падрыхтавацца да этапу, ён пачуў раптам ад канваіра, які суправаджаў яго: "Паглядзі, вось кабінет Гікалы…»[107]

3 кастрычніка 1937 г. С.Шушкевіч быў асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі і на 5 гадоў пазбаўлення ў правах і этапіраваны ў Сібір.

*Я памятаю дні маёй цяжкой вясны,*
*Маўчалі салаўі, бо хмары цёмныя віселі.*

[***] « — Бронюсь, куды ты ідзеш? — словы, кінутыя Францішакам Аляхновічам Браніславу Тарашкевічу ў час іх абмену на савецка-польскай дзяржаўнай граніцы 5 верасня 1933 г.». (з кнігі: А.Валахановіча і У.Міхнюка «Споведзь у надзеі застацца жывым». Мінск. 1999.)

*Не чуў я песні ў краі тым лясным,*
*На голых нарах я не меў пасцелі.*

Маўчалі салаўі[108].

Разам з С.Шушкевічам на розныя тэрміны пазбаўлення волі было асуджана некалькі дзесяткаў чалавек.

*Касіла смерць маіх сяброў,*
*Капец зямлі рабілі невысокі.*
*І сэрца непакоіла штодзённа кроў,*
*Што і мая магіла недзе недалёка.*

Маўчалі салаўі[109].

У 1949 г. С.Шушкевіч паўторна арыштавалі і выслалі на вечнае пасяленне ў Сібір. Увогуле ён прабудзе ў турмах, канцлагерах і на высылцы каля 17 гадоў. У Мінск вернецца толькі ў 1956 г.

18 снежня 1961 г. Тэлеграма.

*«БССР. Г.Минск, 5-й Горный переулок, 7, кв.2*

*Шушкевичу С. П.*

*Уважаемый Станислав Петрович!*

*Благодарю за Ваш подарок.*

*Желаю успехов в Вашей литературной деятельности и крепкого здоровья.*

*С сердечным приветом*

*Ю.Гагарин»*[110].

Канчаткова рэабілітаваны С.Шушкевіч быў толькі ў 1975-м. У 1960-я гады С.Шушкевіч першы надрукуе шэраг успамінаў пра трагічны лёс рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў.

Памёр паэт 1 лютага 1991 г. Анатоль Вярцінскі пісаў: “Са смерцю Станіслава Шушкевіча адыходзіць цэлая эпоха…»[111]

Першыя выяўленыя публікацыі датаваны 1925 годам. Да арышту выходзілі наступныя зборнікі:

Вершы. Мн., 1934; Звярыны баль: Байка. Мн., 1936.

---

[1] Сачанка Б. Наша, беларускае… // *Крыніца.* 1998. № 11(47). С. 4.

[2] **ЛЕВАНОВІЧ Павел Антонавіч** [3.11.1914, в. Мазалава Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ. — 20.12.1943], празаік, публіцыст. З сялянскай сям'і. Пасля сканчэння СШ, вучыўся ў БДУ. Удзельнічаў у паходзе Чырвонай арміі ў Зах. Беларусь. Загінуў падчас 2-й сусветнай вайны. Пахаваны ў в. Старынка Горацкага р-на Магілёўскай вобл.

Кр.: *БП*, т. 4.

[3] Зарыцкі А. Жили-были поэты. // Неман. 1986. № 2.

[4] Астапенка З. На ўсход сонца. Мн, 1931. С. 49.

[5] Паведамленне з раздзела «Беларуская культурная хроніка» // Полымя. 1931. № 2.

[6] Чырвоная Беларусь. 1931. № 16.

Адным з актыўных удзельнікаў Першага ўсесаюзнага з'езда польскіх пралетарскіх пісьменнікаў быў празаік **Вільгельм ГАРАЎСКІ**.

М.Гарэцкі ў 1928 пісаў, што В.Гараўскі *«нарадзіўся ў 1908 г. у сям'і заможнага селяніна на Барысаўшчыне. Змаўку, як і ўсе сялянскія дзеці быў пастухом. Пасля вучыўся, але перашкаджала гэтаму вайна і окупацыя. У 1921 г., пад уплывам польскага патрыотызму, паехаў, бяз ведама бацькоў у Польшчу. Прабыў там месяцы два, аб'ездзіў большую частку Польшчы, але пабыўшы бяз грошай і бяз працы, развеяў свой патрыотызм і вярнуўся назад у БССР. Тут ён трапіў у Інстытут соцыяльнага перавыхавання, адкуль потым, з адным сваім таварышом, уцёк і выехаў на поўдзень СССР. Цягаўся, як бяспрытульнік, па ўсей Украіне і Каўказе — і зноў вярнуўся ў 1922 г. у Інстытут сацыяльнага перавыхавання ў Менск. Настаўнік. Піша апавяданні. Друкуецца ў розных беларускіх выданнях, центральных і бабруйскіх. Вызначаецца прыгожым стылем, асабліва ў абразках-імпрэсіях».*

Паведамленне з час. «Полымя» (1931. № 8):

*«У доме Кам. Асветы адбыўся вялікі інтэрнацыянальны вечар сустрэчы беларускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў з делегатамі з'езду польскіх пралетарскіх пісьменнікаў. Вечар адчыніў сакратар БелАПП'у т. Лынькоў.*

*Пад бурныя воплескі ў прэзідыум запрашаюцца т.т. Бруна Ясенскі, Мыслінскі, К.Чорны, Каваленка (сакратар ВОААПП), Гараўскі, Нэйман (рэдактар "Трыбуны Радзецкай"), Броўка, Маракоў, Сташэўскі і інш."*

[7] *Пруднікаў П.* Уваскрашэнне. // *ЛіМ.* 1994. 25 лют. С. 5, 12.

[8] *Лешчанка Я.* Казённы дом і далёкая дарога // *Запісы.* 1992. № 20. С. 65—101.

[9] Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990. С. 88—89.

[10] З асабістага архіва Л.Маракова.

[11] З асабістага архіва Л.Маракова.

[12] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968. С. 91.

[13] Астапенка З. Пад шум дажджу. Мн., 1991. С. 268.

[14] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968. С. 120.

[15] Астапенка З. Пад шум дажджу. Мн., 1991. С. 153.

[16] *Марціновіч А.* Тайна Змітрака Астапенкі. // *Беларускі* час. 1997. 14 красавіка (№ 14).

[17] Астапенка З. Пад шум дажджу. Мн., 1991. С. 276.

[18] З гутаркі Б.Сачанкі з М.Сяднёвым // *Маладосць*. 1990. № 9. С. 150—168.

[19] *Марціновіч А.* Тайна Змітрака Астапенкі. // *Беларускі час.* 1997. № 14 (14 красавіка).

[20] Астапенка З. Пад шум дажджу. Мн., 1991. С. 151.

[21] З асабовай справы З.Астапенкі ў архіве КДБ Беларусі.

[22] Таўбін Ю. Агні. 1930. С. 55.

[23] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968. С. 27.

[24] БДАМЛіМ. Ф. 225—1—19, л. 30.

[25] Чырвоная змена. 1928. 9 сак.

[26] Паведамленне ў раздзеле «Хроніка» // *Маладняк*. 1931 г. № 6—7.

[27] З асабістага архіва Л.Маракова.

[28] *Махнач А.* Расстраляны «дум закілзаныя коні». // *ЛіМ*. 1994. 24 чэрв.

[29] **МАХНАЧ Алесь Іванавіч** [27.8.1922, в. Забалацце Уздзенскага р-на Мінскай вобл. — 19......., Мінск**],** драматург, празаік, публіцыст, зяць

Міхася Клімковіча, бацька Максіма Клімковіча. Скончыў пачатковую школу ў роднай вёсцы (1933), восем класаў Уздзенскай СШ (1939), Калінкавіцкае ваеннае пяхотнае вучылішча (1941). Удзельнік 2-й сусветнай вайны, паранены трапіў у палон. Пасля вызвалення лячыўся ў шпіталях Мінску і Пяцігорску, але застаўся інвалідам. З 1953 бібліятэкар, з 1956 супрацоўнік аддзела культуры газ. "ЛіМ". Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Кр.: *БП*, т. 4.

[30] Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік. Т. 3. С. 82.

[31] Казлоўскі В. Музыка працы. 1932. С. 31—34.

[32] *Баркоўскі С.* Лірыка Валерыя Маракова. // *ЛіМ.* 1958. 26 лют.

[33] Сталёвы ўзлёт. 1926. 5 снеж.

[34] Гэткую ж назву — "Пялёсткі" — у 1973 годзе возьме У.Дубоўка для сваёй кнігі для дзяцей, якая будзе надрукавана ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» — праваправераемніку Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі.

[35] Маракоў В. Пялёсткі. Мн., 1925.

[36] Паведамленне ў раздзеле «Хроніка беларускае культуры» // *Полымя.* 1926. № 8.

[37] **МОРКАЎКА Аркадзь Андрэевіч** [14(26).1.1900, в. Зазер'е Мінскага пав. — 24.4.1957, Мінск], паэт. Скончыў пачатковую школу, курсы тэлеграфістаў (1916), Віцебскі электрамеханічны тэхнікум (1927), энергетычным ф-т Беларускага політэхнічнага інстытута (1934); працаваў у рэспубліканскай Палаце мер і вагі. У другой палове 1920-х г. актыўна друкаваўся, яго паэзію адзначалі Я.Колас і Ц.Гарты. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, удзельнік падпольнага руху. Пасля вайны вярнуўся на працу ў Палату мер і вагі. Пахаваны на Вайсковых могілках.

Кр.: *БП*, т. 4.

[38] **БАНДАРЫНА Зінаіда Аляксандраўна** [10.11.1909, Гродна — 16.4.1959, Мінск], паэтэса, празаік, культурны дзеяч. З сям'і вайскоўца. У 1925—27 вучылася ў МБПТ. А.Звонак успамінаў, што [Зіна Бандарына была] *"невялічкая, бялявая, гаваркая, жыццярадасная і зусім маладзенькая...»* («Неспакойныя сэрцы», Мн., 1973).

У 1926 сумесна з Н.Вішнеўскай і Я.Пфляўмбаум надрукавала зборнік вершаў. М.Гарэцкі пісаў:

*«Зіна Бандарына... Вершы гладкія, мілагучныя... Глыбокае і далікатнае пачуццё. Элегічнасць. Прыгожая ясная думка, разам з некатарай нэрвовасцю. Строфіка звычайная, рытмы лёгкія, далікатныя. Вобразы — з прыроды і навакольнага жыцця, заўсёды вельмі далікатныя, пяшчотныя, поэтычныя, але цалкам рэалістычныя, без усякіх сантыментальных салодкасцяў».*

У 1930 З. Бандарына паступіла і ў 1933 скончыла Інстытут кінематаграфіі ў Маскве. З 1937, пасля сканчэння аспірантуры, працавала ў розных гарадах Расіі. З 1945 ў Мінску, працавала ў час. «Бярозка», на радыё, у газетах «Зорька» і «ЛіМ».

[39] Гарэцкі М. "Маладняк" за пяць гадоў. С. ...........

[40] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968. С........

[41] Нацыянальны архіў Беларусі. Ф. ................

[42] **БЭНДЭ Лукаш Апанасавіч [**1.11.1903, в. Шчакоцк Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл. — 23.12.1961**],** супрацоўнік НКВД, у першай палове 1930-я г. лідар ваяўнічых крытыкаў-аглабельшчыкаў, «*злы дэман, які прысмактаўся да жывога цела маладой беларускай літаратуры*» (*Рагойша В.* На зломе часу. // *Полымя.* 1989, № 4).

З успамінаў паэта С.Грахоўскага:

*«Восенню 1931 года я трапіў у Дом пісьменніка на літаратурны вечар. Доўга, нібыта на нейкага сварыўся, на руска-беларускай мове з прыбалтыйскім акцэнтам гаварыў Л.Бэндэ. (Імя яго амаль ніхто не ведаў: пісалі і гаварылі — Л.Бэндэ, і толькі). Выглядаў ён няўмольным камандзірам пры літаратуры — у галіфэ, у новенькай суконнай гімнасцёрцы з малінавымі пятліцамі без ніякіх адзнак, падперазаны шырокім рамянём, з пісталецікам пры боку. Пакуль ён бушаваў на трыбуне, усе зацята і прыгнечана маўчалі, угіналіся, хаваліся адзін да аднаго, каб часам не трапіць на вока. Бо ацэнкі у яго былі катэгарычныя, як прысуд: «нацыяналістычныя настроі», «дробнабуржуазныя тэндэнцыі», «кулацкія настроі».*

*Як толькі Бэндэ сышоў з трыбуны, зала лёгка ўздыхнула...»* (Так і было. Мн., 1986).

*«Ён нават знешне быў непрыемны. Худы, лысы да апошняга воласу, з вачыма, што глядзелі быццам з таго свету і праціналі навылет. Помню, калі, знаёмячыся, ён працягнуў руку і я ў адказ падаў сваю, здалося, што дакрануўся чагосці ліпкага, агіднага — ні то цвілі, ні то павуціння»* (Б.Сачанка, «Сняцца сны аб Беларусі», Мн., 1990).

Кр.: *ЭГБ*, т. 2; *БП*, т. 1.

[43] Маракоў В. .................................. ................

[44] Узвышша. 1930. № 8.

[45] **АНАНЬЕЎ Паўлюк** [1905, в. Андрасковічы Гарадоцкага пав. Віцебскай губ. — кастр. 1932, Гагры], паэт. Першыя вершы надрукаваў у "Віцебскай сялянскай газеце" (1926). У 1928 скончыў у Віцебску педагагічныя курсы. З 1931 вучыўся ў МВПІ, выступаў у рэспубліканскіх перыядычных выданнях ("Маладняк", "Полымя", "Узвышша" і інш.). Аўтар двух зборнікаў вершаў: "Героіка дзён" і "Рабочы пульс" (сааўт. А.Ушакоў), сустрэтых тагачаснай крытыкай адмоўна.

Кр.: *БП*, т. 1.

[46] **БЛІСЦІНАЎ Міхась** [6(19).10.1909, в. Іванкава Масальскага пав. Калужскай губ., Расія — 24.12.1982, Мінск], празаік, кінадраматург. З сям'і вясковага настаўніка. Скончыў МБПТ (1928), вучыўся ў МВПІ (1930—32). Працаваў у газ. «ЛіМ». У 1938 скончыў сцэнарны ф-т Кінаакадэміі ў Маскве. Член СП Беларусі з 1939. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. У першай палове 1950-х г. рэдактар, старшы рэдактар "Беларусьфільма".

[47] **ЗАЗЕКА Язэп** [Іосіф Васілевіч; 11(24).6.1907, в. Востраў Клічаўскага пав. Магілёўскай губ. — 27.8.1977, Мінск], празаік, публіцыст, педагог, член СП Беларусі (1967). З сям'і рабочага. Скончыў царкоўна-прыходскую школу (1920), школу сялянскай моладзі (1922), літаратурны ф-т і аспірантуру Вышэйшага педагагічнага інстытута імя М.Горкага (1936; 1940). Падчас 2-й сусветнай вайны ўдзельнік падпольнага руху. З 1952 да 1973 — дацэнт БДУ. Друкаваўся з 1930, але асноўныя публікацыі з'явіліся ў пасляваенны час. Пахаваны на Паўночных могілках.

Кр.: *БП*, т. 2.

[48] ЛіМ. 1934. ........ студз.

[49] **БЕРГМАН Аляксандра Рыгораўна** [Bergman Aleksandra; дзявочае Кучкоўская; падпольныя псеўданімы: Зіна; Стаха; Малеўская; нар. 1.5.1906, Гродна — ?], гісторык, публіцыст, жонка публіцыста Сцяпана Бергмана (Эпштэйна).Член КПЗБ з 1925. Вучылася ў партшколах пры ЦК КПЗБ і ЦК ПАРП. Сакратар падпольных акруговых камітэтаў КСМЗБ у Гродне, Вільні, Брэсце, Баранавічах, Беластоку. У 1931 стала членам Краявога Сакратарыята ЦК КПЗБ. У 1934 накіравана ў БССР, працавала нам. сакратара парткама завода «Гомсельмаш». Арыштавана ў 1935, абвінавачаная ў шпіянажы і контррэвалюцыі. 10 гадоў знаходзілася ў зняволенні. У 1946 у рамках праграмы рэпатрыяцыі перасялілася ў ПНР. Рэабілітавана ў 1956. Працавала ў час. «Życie Partii». Даследавала гісторыю КПЗБ, БСРГ, перыядычны друк («Наша ніва», «Вольны сцяг», «Змаганне»). Аўтар манаграфій і артыкулаў пра грамадска-паліт. дзеячаў Зах. Беларусі ў міжваенны перыяд — А.Луцкевіча,

Б.Тарашкевіча, У.Самойлу, І.Дварчаніна, Л.Родзевіча, В.Харужую, С.Рак-Міхайлоўскага, М.Перавалоцкага і інш.

50 **ГАЎРУК Юрка** [Юрый Паўлавіч; псеўданім: С.Дробуш; 23.4(6.5).1905, Слуцк Мінскай губ., цяпер Мінскай вобл. — 18.2.1979, Мінск], перакладчык, крытык, паэт. З сям'і бел. службоўца. З 1915 з бацькамі ў бежанстве ў Пскове. У 1921 скончыў Слуцкую школу другой ступені. Вучыўся ў Маскве ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце імя В.Брусава (скончыў у 1925). З 1924 запісваў на Случчыне бел. фальклор. З першымі перакладнымі творамі дэбютаваў у 1925. М.Гарэцкі пісаў: «Як паэт-перакладчык вызначаецца Ю.Гаўрук». Свае творы друкаваў у час. «Аршанскі маладняк», «Маладняк», «Полымя» і інш. Сябра «Маладняка». Увосень 1925 абраны дацэнтам кафедры бел. мовы і літаратуры БСГА, пераехаў у Горкі. У 1931—35 дацэнт кафедры літаратуры Магілёўскага педінстытута. Арыштаваны 8.2.1935 у Магілёве. Асуджаны 28.4.1935 асобай нарадай пры НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў канцлагераў. У 1995 В.Собаль пра канцлагер напіша «проста» (Віцебскі рабочы. 6 мая): «У 1935—1956 гадах Ю.Гаўрук жыў і працаваў за межамі Беларусі». Вось так — «жыў і працаваў за межамі», а не «пілаваў лес, капаў зямлю» ў канцлагеры (з арт. Чыгрына І. пра лёс Ю.Гаўрука). Этапаваны ў Карэлію, потым ва Усх. Сібір, у Комі АССР. У Мінск вярнуўся у 1956. У 1957—67 працаваў памочнікам галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы тэатра імя Я.Купалы. У гэтым тэатры, а таксама ў тэатры імя Я.Коласа пастаўлены ў яго перакладзе п'есы з сусветнай класікі. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 27.2.1958. Асабовая справа Г. № 15523 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

51 **ДЗЯРГАЙ Сяргей Сцяпанавіч** [17.9.1907 ці 27.9.1907, Мінск — 25.12.1980, Мінск], паэт, перакладчык. З сям'і чыгуначніка. Скончыў Першую мінскую чугуначную школу (1924), агульнаадукацыйныя курсы (1927). Працягваць вучобу не змог з-за хваробы. Шмат займаўся самаадукацыяй. З 1934 працаваў карэктарам у друкарні газ. «Звязда». Арыштаваны 15.3.1935 у Мінску па адрасе: Міхайлаўскі зав., д. 14, кв. 2. Асуджаны 21.6.1935 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК і аднаго года пазбаўлення правоў. Пасля вызвалення ў 1937 жыў на вёсцы ў брата. У 1938 у газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны першы верш Дз. Зноў арыштаваны ў 1939; высланы ў Казахстан. Пасля вызвалення з 1941 жыў у Новабеліцы пад Гомелем. Падчас нямецкай акупацыі падтрымліваў сувязь з партызанамі, уваходзіў у падпольную антыфашысцкую групу. З 1946 жыў у Мінску. Член СП Беларусі з 1950. З 1951 працаваў загадчыкам аддзела паэзіі час. «Полымя». У 1953—67 адказны сакратар, загадчык аддзела літаратуры час. «Вожык». Першы зборнік «Вачыма будучыні» выйшаў у 1953. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я.Купалы (1964) за зборнік «Чатыры стыхіі» (1962). Перакладаў з польскай, рускай, украінскай моў. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 27.3.1992.

Пахаваны на Паўн. могілках Мінска. Асабовая справа Дз. № 34633-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

*«Творам паэта ўласціва абвостранае ўспрыманне надзёных праблем сучаснасці, выразнасць грамадзянскай пазыцыі, гуманістычнае гучанне, матывы ўслаўлення чалавека працы, роднай зямлі, гераічнай памяці народа, яго гістарычнага мінулага…»* (Л.Гарэлік).

52 **ДРАЖВЕЦКІ Дзмітрый Васілевіч** [студз. 1897, в. Колкі Валынскай губ., Украіна — 8.8.1938, Магадан, ГУЛАГ], эканаміст-географ. З украінскай сялянскай сям'і. У 1919—21 ваяваў у складзе Чырвонай арміі. Вучыўся ў аспірантуры БелАН. З 1932 працаваў навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзела картаграфіі Інстытута эканомікі БелАН. Арыштаваны ў Мінску 15.12.1935 па адрасе: вул. Свярдлова, д. 40, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 23.2.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Этапаваны на ст. Сяданка (цяпер Прыморскі край). 8.8.1938 тройкай НКВД прыгавораны як «член сабатажнай групоўкі» да ВМП. Расстраляны ў першую пасля прыгавору ноч. Па першым прыгаворы рэабілітаваны 21.11.1956, па другім — 24.10.1962. Справа Д. № 7747-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

53 **КІЙКО Мікалай Фёдаравіч** [жн. 1902, в. Гарадзея Нясвіжскага пав. Мінскай губ. — ?], музейны работнік. З сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. У 1930—35 навуковы супрацоўнік Музея рэвалюцыі. Арыштаваны ў Мінску 2.12.1935 па адрасе: вул. Рабкораўская, д. 21, кв. 5. Абвінавачваўся ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Асуджаны тройкай НКВД 1.7.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР (пас. Мадмас). Зноў арыштаваны 9.6.1938. Асуджаны тройкай НКВД 9.10.1938 «за антысавецкую агітацыю» да ВМП. Рэабілітаваны 30.5.1989. Асабовая справа К. № 23842-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

54 **КРАЧКОЎСКІ Кліменцій Станіслававіч** [1905, в. Каселаны Холмскага пав., Польшча — 8.5.1939, ГУЛАГ], эканаміст. У 1920-я г. настаўнік Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф.Скарыны. У 1926 нелегальна эміграваў у СССР. Працаваў вучоным сакратаром Савета па вывучэнні вытворчых сіл пры БелАН. 31.10.1935 выключаны з КП(б)Б. Арыштаваны 3.11.1935. Пастановай Асобай нарады НКВД СССР ад 10.4.1936 прыгавораны да 5 гадоў пазбаўлення волі. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 6.8.1957.

55 **СТЭФАНОВІЧ Аляксандр Піліпавіч** [1905, Ашмяны — ?], журналіст. За членства ў БСРГ арыштаваны польскімі ўладамі ў 1927. У 1928 арганізаваў пастаноўку «Паўлінкі» Я.Купалы ў мяст. Гальшаны Ашмянскага пав., у якой выконваў ролю А.Быкоўскага. Перабраўся ў БССР. У 1933 працаваў рэдактарам газ. «Бальшавік Барысаўшчыны». Часта сустракаўся з

Я.Купалам, які бываў у яго ў гасцях у Барысаве. Арыштаваны 30.10.1935 у Барысаве па адрасе: вул. 3-га Інтэрнацыянала, д. 50. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 11.8.1936 за «супрацоўніцтва з польскай палітычнай паліцыяй» да 6 гадоў ППК і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Пасля вайны пасяліўся ў Вільні. Аўтар артыкулаў пра Я.Купалу: «Палымяны пясняр дружбы народаў» («Красное знамя», Ашмяны, 7—9.7.1977); «Пад уплывам песняра зямлі беларускай» («Успаміны пра Янку Купалу», 1982). Заслужаны работнік культурна-асветнай работы Літоўскай ССР. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.6.1956. Асабовая справа С. № 9989-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[56] **ЮРГЕЛЕВІЧ Пётр Якаўлевіч** [14.12.1894, мяст. Трабы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер вёска Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл. — 17.4.1973, Магілёў], мовазнавец, педагог. Да 1917 у рускай дзеючай арміі, з 1917 член ВКП(б), радавы 7-га сібірскага дывізіёна. З 1919 на Зах. фронце ў складзе Беларуска-літоўскай (?) дывізіі. У 1925 скончыў ф-т грамадскіх навук БДУ. У 1926—27 працаваў адказным рэдактарам газ. «Наш працаўнік» у Клімавічах; у 1927—28 стыльрэдактарам у Белдзяржвыдавецтве ў Мінску. У 1930—35 вучоны сакратар Інстытута мовазнаўства БелАН. Разам з П.Бузуком і Я.Мацюкевічам падрыхтаваў «Анкету для збірання матэрыялаў па беларускай мове» (1931); браў удзел у падрыхтоўцы «Вайсковага руска-беларускага слоўніка» (1933), падручніка «Беларуская граматыка: Марфалогія» (1936). Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 2.11.1935 ў Мінску. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 31.3.1936 за «контррэвалюцыйную дзейнасць і незаконнае захоўванне зброі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны (не раней 1938) ў Вяцкі канцлагер НКВД Кіраўскай вобл. Вызвалены 2.11.1940. У 1944—69 загадчык кафедры бел. мовы, дацэнт Магілёўскага педагагічнага інстытута. Цалкам рэабілітаваны 8.12.1960. Найбольш плённа працаваў у 1950—70-я г. Даследаваў пытанні сучаснай бел. літаратурнай мовы, бел. народныя гаворкі. Выступаў у друку з рэцэнзіямі на школьныя падручнікі па бел. мове. Напісаў «Праграму па гістарычнай граматыцы беларускай мовы: Для філалагічных і гісторыка-філалагічных факультэтаў» (1964). Шмат зрабіў у галіне стварэння вучэбных дапаможнікаў па бел. мове. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 25.11.1960. Асабовая справа Ю. № 16797-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[57] З асабовай справы Дз.Маракова (захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі).

[58] **ФЕАФАН** [свецкае імя: Семяняка Мікалай Адамавіч; 6.1.1879, мяст. Дзятлава Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 1937 або 1938, ГУЛАГ], святар, рэлігійны дзеяч. З сям'і службоўца. Скончыў Літоўскую духоўную семінарыю. Пасля прысвячэння ў

святары служыў у Чырвонастоцкім манастыры (цяпер тэрыторыя Польшча). У пачатку 1-й сусветнай вайны выехаў у Расію. У 1925 арыштаваны АДПУ за "контррэвалюцыйную дзейнасць". Асуджаны да 2 гадоў пазбаўлення волі. Пасля вызвалення жыў у Маскве, служыў настаяцелем Свята-Барыса-Глебскай царквы. Епіскапская хіратонія С. была адпраўлена 13.12.1930 па благаславенню мітрапаліта Сергія (Страгародскага). Ф. быў накіраваны ў Мінскую епархію і ў лют. 1931 прыехаў у Мінск. Багаслужэння адпраўляліся ім ў царкве Св. Мікалая Цудатворцы ў пас. Козырава. 9.7.1934 уладыка быў вазведзены ў сан архіепіскапа. Па ўспамінах протаіерэя Барыса Васільева Ф. заваяваў сярод людзей надзвычай вялікую папулярнасць і павагу. Адзін з кіраўнікоў антысавецкай арганізацыі ў прыгарадзе Мінска Козыраве. Арыштаваны 9.4.1935. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1935 (разам з інш. святарамі, старастам і актыўнымі прыхаджанамі Козыраўскай царквы) за "контррэвалюцыйную дзейнасць" да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з Далёкаўсходніх канцлагераў. У зняволенні прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 4.4.1990. Справа С. № 31424-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[59] **ЗЕНЮК Іван (Іаан) Пятровіч*** [1872, мяст. Пагост Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 1940 (?)], протаіерэй. Цесць бел. паэта Янкі Бобрыка. З сям'і служачага. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю. У першай палове 1930-х г. настаяцель царквы Св. Мікалая Цудатворцы. Быў жанаты, гадаваў чацвярых дзяцей. Адзін з арганізатараў антысавецкай арганізацыі ў пас. Козырава. Арыштаваны 9.4.1935. Асуджаны (разам з інш. святарамі Козыраўскай царквы) калегіяй АДПУ 10.8.1935 за "антысавецкую дзейнасць" да 5 гадоў ППК. Верагодна, была рэпрэсавана і сям'я З. Памёр ад разрыва сэрца неўзабаве пасля вяртання з канцлагера. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 4.4.1990. Справа З. № 31424-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[60] З асабовай справы В.Маракова.

[61] Голас Радзімы. 199....... ........

[62] БДАМЛіМ. Ф.225—1—19, л. 26—27.

[63] Гарэцкі М. «Маладняк» за пяць гадоў. 1928.

[64] Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік. Т. 4. С. 213.

[65] З асабістага архіва Кацярыны Аляксееўны Шушкевіч.

[66] Сьвітанне. 1927. С. 7.

[67] Чырвоны сейбіт. 1927. № 8—9. С. 28.

[68]Світанне. 1926. 3 ........ 2.

[69] **САПРЫКА Ганна Іосіфаўна** [3(16).6.1911, в. Куркаўшчына Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ. — 14.5.1962, Мінск**],** празаік. З сялянскай сям'і. Скончыла сямігодку ў роднай вёсцы, Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум (1930), дзе вучылася разам з А.Куляшовым, З.Астапенкам, Ю.Таўбіным і інш., МВПІ (1933 ці 1934). Працавала ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве.

[70] Аршанскі маладняк. 1928. № 8.

[71] Світанне. 1926 № 2.

[72] Кляшторны Т. ...........................................................................

[73] Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986. С. .......

[74] Маладняк. 1929. № 10.

[75] Маладняк 1929 № 10.

[76] **БЯЗЫМЕНСКІ А.........................................................................** [19..........,.................... ............................... пав. ....................................... губ. — 19........, ..........................], рускі празаік, паэт, публіцыст, ............................ ............................................................................................................ ..............................................

Літ.: ............................................................................................ ............................................................................................................ ............................................................................................................

Кр.: ........................................................................................................

[77] Маладняк. 1930. № 4. С. 129.

[78] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. С. ............

[79] Таўбін Ю. Агні. Мн., 1930.

[80] **ТАРАСАВА Т.......................... ...............................** [19.........,.................... ............................... пав. ....................................... губ. — 19........, .....................],
....................................................................................................

[81] Дубоўка У. ...................... ............

[82] **КАБАКОЎ Н.............................. ................................** [19.........,.................... ............................... пав. ....................................... губ. — 19........, ................],
.........................................................................
................................................

[83] Маладняк. 1931. № 5—6.

[84] Таўбін Ю. Агні. Мн., 1930. С. ................

[85] Узвышша. 1931. № 1.

[86] Полымя. 1931. № 9.

[87] Маладняк. 1931. № 4. С. 138.

[88] **РАМАНОЎСКАЯ Гэлена Людвікаўна [**13(26).12.1908, Мінск — 17.5.1980, МІнск**]**, педагог, літаратар (пісала толькі ў 1920—30 г. і на польскай мове). З сям'і чыгуначніка. Скончыла Польскі педагагічны тэхнікум (1929), МВПІ (1934), дзе вучылася разам з Э.Агняцвет, З.Біралам, С.Левіным, Ю.Лявонным, В.Мараковым, З.Піваваравым, П.Хатулёвым, С.Шушкевічам (выйшла за яго замуж) і інш. Член СП Беларусі з 1934. Захаваўся зборнік С.Шушкевіча «Вершы» (Мн., ДзВБ, 1934) з дароўным надпісам аўтара: «Галі — вясёлай студэнтцы і таварышу. С.Шушкевіч. 7.VI/1934”. Пахавана на Паўночных могілках.

[89] Куляшоў А. Узвышша. 1931. № 1.

[90] Маладняк. 1931. № 2.

[91] Таўбін Ю. Мая другая кніга. Мн., 1932.

[92] Таўбін Ю. Каб жыць, спяваць і не згарэць. Мн., 1931.

[93] Таўбін Ю. 3 паэмы. Мн., 1931.

[94] **АНІСАЎ С....................... Р.................................** [19.........,.................... ............................... пав. ....................................... губ. — 19........, ................], ...........................................................................
..................................................................................................
Кр.: *ЭГБ*, т. 1. (??????)

[95] Чырвоная змена. 1931. 27—28 ліст.

[96] Куляшова В. Лясному рэху праўду раскажу. Мн., 1989.

[97] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. С. ...........

[98] **ХАЎСМАН Альфрэд** [1859, .................................. ............ ............. — 1936, ................], англійскі паэт.
..................................................................................................
Літ.: Парень из Шропшира. 1896. ..............................................
.....................................................................................

[99] Антология новой английской поэзии. Ленінград. 1937. С. ........

[100] Полымя ????? ........................................................

[101] **КУДРЭВІЧ У............................ М...............................** [18......, в. ..................... ............................... пав. ..................................... губ. — 19......, ......], мастак. ........... ................. ............. .......... ............ ................... ........................... ...........

.....................................................................................
Кр.: *ЭГБ*, т. 4. (??????)

[102] **ТЫЧЫНА А.................. М...............................** [18......, в. ..................... ............................... пав. ..................................... губ. — 19......, ......], мастак. ........... ......... ......... .......... ........... ........... ..................... .............. .................................................................................................
У 1920—30-я г. мастак час. «Маладняк», «Чырвоная Беларусь» і інш. ...........

[103] **СОНЦАВА А....................... ...............................** [18......, в. ..................... ............................... пав. ..................................... губ. — 19......, ......], педагог, настаўніца Янкі Купалы. .................................................................................................
Кр.: Слоўнік Янкі Купалы (????)

[104] *Пруднікаў П.* Белы мой лебедзю, мой пабрацім… *Беларусь*. 1992. № 10.

[105] Шушкевіч С. Вершы. Мн., 1934. С. 30.

[106] **ТАРАШКЕВІЧ Браніслаў Адамавіч** [псеўданімы: Адам Навука; «Тарас на Парнасе»; Я.Тарас; Тарас Язычнік; Тарас Навіна (?); Biaiorusin; 8(20).1.1892, засценак Мацюлішкі Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер Вільнюскі р-н, Літва — 29.11.1938, Мінск, НКВД], грамадскі і паліт. дзеяч, мовазнавец, перакладчык, публіцыст. У 1911 скончыў 2-ю Віленскую гімназію, у 1916 — гісторыка-філалагічны ф-т Петраградскага ун-та. У бел. друку выступаў з 1913. У 1916—18 на кафедры рускай мовы і славеснасці Петраградскага ун-та. З 1917 адзін з лідэраў БСГ, з 1918 — Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1918 Т. выдаў «Беларускую граматыку для школ», якая адыграла значную ролю ў нацыянальнай асвеце. У 1919 выкладчык бел. і грэчаскай моў у МВПІ. У тым жа годзе Т. быў арыштаваны бальшавікамі. У 1920 старшы рэферэнт дэпартамента асветы Сярэдняй Літвы. У 1921—22 дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў ТБШ. У 1922 абраны дэпутатам польскага сейма, узначаліў у ім Беларускі пасольскі клуб. Актыўна выступаў з трыбуны сейма ў абарону інтарэсаў бел. народа. У 1925 старшыня БСРГ. Арыштаваны 14.12.1927. У маі 1928 на «Працэсе 56-і» асуджаны на 12 гадоў турмы. У 1928 абраны акадэмікам АН Беларусі. У 1930 вызвалены паводле распараджэння прэзідэнта Польшчы. Зноў арыштаваны 5.2.1931. У ліст. 1932 асуджаны на 8 гадоў катаржнай турмы. Падчас знаходжання ў турме пераклаў на бел. мову паэму А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш». З вер. 1933 па абмене палітвязнямі жыў у СССР. Працаваў у Міжнародным аграрным інстытуце ў Маскве. Арыштаваны НКВД 5.5.1937. 5.1.1938 «двойкай» НКВД і Пракуратуры СССР прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 26.1.1957. Імем Т. названы вуліцы ў Маладзечне і Радашковічах, ліцэй у Бельску (Польшча).

[107] *Смілавіцкі Л.* Апошняе інтэрв'ю // *ЛіМ*. 1991. 15 сак.

[108] *Шушкевіч С.* Маўчалі салаўі. // *Полымя*. № 2. С. 65.

[109] Тамсама.

[110] З асабістага архіва Кацярыны Аляксееўны Шушкевіч.

[111] ЛіМ. ????????? ......................................................................................